# НІВА

Год выдання V
№ 30 (230)
24 ЛІПЕНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА




## БЕЛАСТОК 1960



16 год назад грукат стальных гусеніц абвясціў Беластоку незалежнасць. Пад магутнымі ўдарамі Савецкай Арміі гітлераўскія захопнікі вымушаны былі 27 ліпеня 1944 года назаўсёды пакінуць наш горад.

Пасляваенны перыяд гэта новая багатая старонка ў гісторыі горада. 16 год народнай улады азначала не толькі залечванне нанесеных вайной ран, але і яго сур'ёзную разбудову. З кожным годам горад не старэе, а наадварот, маладзее і прыгажэе. Дзе толькі не кінеш вокам, выраслі і растуць цэлыя кварталы новых жылых дамоў, новыя вытворчыя прадпрыемствы, школы, дзіцячыя сады, культурныя ўстановы. Сённешні Беласток, гэта ўжо не глухі горад былой Польшчы Б. Ён стаў сапраўдным сучасным горадам са звыш 100 тысячамі жыхароў. Наш горад захапляе прыезджага размахам будаўніцтва і новай архітэктурай. Зараз Беласток з'яўляецца адным з значных прамысловых і культурных цэнтраў нашай краіны.

Зрэшты, вы можаце пераканацца аб гэтым паглядзеўшы на змешчаныя побач здымкі сённешняга Беластока.

тэкст і фота П. ЧЭРНЯКЕВІЧ




## Перад жнівам

У сувязі з надыходзячым жнівам мы правялі гутарку са старшынёй ГС у Гайнаўцы — Кастусём Ляшчынскім.

**— Як забяспечаны крамы вашай ГС у адпаведныя прылады, патрэбныя земляробам у час жніва?**

— Наогул нядрэнна. Усе нашыя вясковыя крамы, а ёсць іх 23, маюць адпаведную колькасць такіх прыладаў, як косы, бабкі, малаткі, напарсткі да косаў, бруські і г. п.

**— Ці косы нашай краёвай прадукцыі карыстаюцца папулярнасцю сярод сялян?**

— Дагэтуль не вельмі. Большай папулярнасцю карысталіся заграцічныя, пераважна чэхаславацкія. Але сёлеташні выпуск нашых кос не ўступае чэхаславацкім. Яны здабываюць папулярнасць. Сёлета прадалі мы ўжо гэтых кос звыш 3000 штук.

**— Ці ў час жніва прадбачваецца павялічэнне надзелу другіх тавараў у вясковыя крамы?**

— Так. Перш за ўсё хочам забяспечыць кожную краму адпаведнай колькасцю напіткаў такіх як «аранжада», «ліманада» і піва.

Прадбачваецца таксама давоз «аранжады» і піва непасрэдна ў поле, дзе будуць працаваць большыя скупішчы людзей.

Але гэта ўжо залежыць ад праўлення ВЗГС, ці прыдзеліць нам на час планаваны грузавік.

**— Якія іншыя сельгаспрылады маюць попыт на Гайнаўшчыне?**

— Найбольшы попыт маюць у нас «абсыпнікі НГО» да абворвання бульбы. Гэтыя машыны цяпер вельмі на часе. Але іх няма. На другі квартал бягучага года было прызначана нашаму ПЗГС 100 штук гэтых карысных машын. Нажаль не атрымана ніводнай. Гавораць, што нашая прамысловасць не паспявае за патрэбамі вёскі.

— Дзякуем за гутарку і да сустрэчы на дажынках.

(вб)

## ЛЯСНАЯ СЯМ'Я



Калі пад'язджаеш да Райгродскага возера, ужо здалёк чуваць задорныя дзіцячыя галасы. Паміж зялёным каўром лесу, нібы агромныя грыбы, раскінуліся старанна растаўленыя палаткі. Перад палаткамі ўзорная чысціня і парадак, якія шмат добрага гавораць аб іх гаспадарах. А гэтымі гаспадарамі з'яўляюцца гарцэры Беластоцкай харугвіі, якія праводзяць тут свой летні адпачынак. Супольна з Беластоцкімі гарцэрамі праводзе лета і група савецкіх піянераў з Гро-

(Працяг на стар. 5).

# Гаспадыні на роўні з гаспадарамі

За апошнія паўтара дзесятка гадоў у краіне шмат што змянілася. Умацавалася народная ўлада, людзі сталі жыць па-чалавечаму. А жыццё жанчыны на Дуброўшчыне ўсё заставалася такім, як калісьці.

Сітуацыя змянілася ад часу, калі ў павеце пачала дзейнічаць жаночая арганізацыя. У вёсках арганізуюцца гурткі вясковых гаспадынь. Не вельмі ахвотна ўступалі жанчыны ў гэтыя гурткі.

— Хатніх абавязкаў па самыя вушы, дык дзе ж знайсці час на працу ў арганізацыі, — часта чулася ў вёсках.

— Не для нас гэта арганізацыя, — гаварылі другія.

— У горадзе — дык іншая справа. Там жанчыны больш маюць часу.

Нягледзячы на гэта, усведамляючая праца арганізацыі не спынялася.

У гуртках вясковых гаспадынь арганізаваны практычныя курсы, даклады на розныя тэмы. Жанчыны пераконваліся, што хатнюю працу можна аблегчыць, можна ўтрымаць прыкладны парадак і жыць шмат культурней і лепш. Найбольшую папулярнасць здабылі калектывы па вырошчванню гародніны. Зараз існуе ў павеце 10 такіх калектываў. Вынікі іх працы проста надзвычайныя. Асабліва добрыя вынікі ў мінулым меў калектыў у вёсцы Няросна. Напрыклад, Марыя Галаўня ў сваім гародзе вырасціла капусту, галоўка якой важыла 8,4 кілаграма, моркву — 3,8 кілаграма, кармавыя буракі — 5,83 кілаграма (адзін). Такога ўраджаю гародніны ў Няросне яшчэ ніхто не меў дагэтуль. Зразумела, што такія вынікі атрымаліся не выпадкова.

Жанчыны арганізавалі курс крою, шыцця і гатавання. У мінулым годзе яны за грошы з супольных складчын купілі машыну да апрацоўкі ільну. У сувязі з гэтым значна павялічылі плошчу зямлі пад вырошчванне ільну. Арганізавалі таксама калектыў па гадоўлі хатняй птушкі. Добра ўтрымамыя куратнікі і рацыянальнае адкормліванне садзейнічала таму, што куры пачалі несціся ў 2 разы лепш. Сёлета ў Няросне арганізаваны калектыў хуткага адкормлівання свіней і гадоўлі цялят. Каб забяспечыць адпаведны корм, калектыў першы раз у гісторыі Няросна пачаў вырошчваць кукурузу.

Гурток вясковых гаспадынь у Няросне не выключны на Дуброўшчыне. Зараз тут вельмі паспяхова дзейнічаюць такія гурткі ў Ячне, Ясяноўцы, Ольшы, Ліпску, Новай Вёсцы, і другіх вёсках павета.

Каб пераканаць жанчын, якую ролю мае ў павелічэнні жывёлагадоўлі адпаведны корм, на Дуброўшчыне сёлета арганізаваны тры калектывы па вырошчванню кукурузы і 3 калектывы па вырошчванню кармавой капусты. Несумненна, што ў наступным годзе такіх калектываў на Дуброўшчыне будзе больш.

Важна тут яшчэ і тое, што дуброўскія жанчыны маюць прагу да кніжак. Калі позным вечарам застанеш у вясковай хаце жанчыну над такой кніжкай, як «Гадоўля свіней», «Гародніна ў гародзе і на талерцы», «Практычная кухня», «Пячэнне піражнага», дык гэта ўжо не выключны выпадак на Дуброўшчыне. Жанчыны тут разумеюць, што рост сельгасвытворчасці і наогул лепшае, радаснейшае жыццё залежыць і ад іх на роўні з мужчынамі. А калі так, дык трэба вучыцца.

**В. Б.**

# ЛЯСНАЯ СЯМ'Я

(Працяг са стар. 1)

дзеншчыны. А трэба сказаць, што месца для адпачынку выбрана ўдала.

У нядзелю, 10 ліпеня ў гарцэрскім лагеры было надта людна. Апрача гарцэраў сюды прыбылі прадстаўнікі ўлад і бацькі, каб паглядзець на свае пацехі. У гэты менавіта дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё лагера. Роўнай лінейкай, падцягнутымі па святочнаму, стаяць паасобныя падлагеры. Роўненькім шэрагам, плячо ў плячо з гарцэрамі стаіць і піянерская група.



Дэлегацыя піянераў з Гродна ўручае гарцэрам прывезеныя з сабой падарункі: кніжкі, альбомы і грамплацінкі.

Пачынаецца ўрачыстасць. Камендант харугвянай акцыі «Грунвальд» гарцмістр Рышард Варанецкі складае каменданту гарцэрмістру Вацлаву Якубоўскаму рапарт з гарцэрскай летняй акцыі 1960 года. Лагерны флаг плыве ўгару. Лагер адчынены. Да сабраных гарцэраў і бацькоў з сардэчнымі словамі звяртаюцца старшыня Ваяводскай рады сяброў гарцэраў Пётр Любянецкі, затым прадстаўнік Падляшскай акругі КБВ капітан Добруш уручае гарцэрам лаўрку.

Перад падцягнутымі на смірна гарцэрскімі падлагерамі праходзяць прадстаўнікі ўлад і запрошаныя госці. Пасля агляду — парад гарцэраў. Пад вечар, пырскаючы іскрамі, палыхае вогнішча. Задорны смех, музыка і песні разносяцца па наваколлі.



Парад гарцэраў адчыняюць знаменаносцы.

### У ПАДЛАГЕРЫ «ГАРАДЗІШЧА».

Так называецца падлагер, дзе супольна з гарцэрамі жыве дэлегацыя савецкіх піянераў.

— Вы да каго? Рашучы тон у словах стаячай на варце гарцэркі быў аж надта пераканаўчым.

— Я да піянераў. Даведаўшыся ў чым справа, каравульная ветліва запрасіла мяне на тэрыторыю падлагера.

У палатцы людна. Чырвоныя гальштукі піянераў перамяшаліся з рознакаляровымі хустамі гарцэраў. Задорна гучыць мелодыя «Падмаскоўных вечароў», «Кукулэчкі» і іншых песень. У той жа самай песні чуваць польскія і рускія словы. Удзельнікі лагера хутка знаходзяць супольную мову.

Каля палаткі групкі гарцэраў і піянераў. Ідзе ажыўлены абмен значкамі, паштоўкамі, калекцыянерскімі манетамі. За адзін дзень сваёй пабыўкі ў лагеры піянеры паспелі ўжо перазнаёміцца з сваімі польскімі сябрамі — гарцэрамі.

— Адам... — Ян... і пасыпаліся імёны, калі я запытаў піянераў пра іх польскіх знаёмых.

Мінула ўрачыстая нядзеля.

(Працяг на стар. 7).

# ЗА МНОЮ

сабака! Ты цэлую вёску згубіў. Выхадзі»! Ну, а потым пачаў ламаць штахеты і малаціць вокны.

Я з увагай прыгледзеўся старшыні. Яго вочы былі закрываўленыя, бровы і шчокі вакол вачэй спухшыя і пасінеўшыя.

— Ударыў ён вас? — запытаў я.

— Калі я выглянуў праз акно, каб пабачыць, што за разбойнік плюгавіць мой гонар і б'е шыбы, тады ён схапіў камень і шпырнуў ім у акно. Камень разбіў шыбу і разам з асколкамі шкла ўдарыў мяне проста ў вочы.

— Ну, але за што? — здзівіўся я.

— Менавіта, за што? — паўтарыў мае пытанне старшыня. — Ён жа яшчэ амаль малакасос і нададатак — няпоўнага розуму. Я асабіста ані з ім, ані з яго сям'ёю, ці сваякамі ніколі не меў ніякіх сутычак. Ён сам, па ўласнай ініцыятыве не мог бы рашыцца на гэта. Безумоўна хтосьці мусіў яго падбунтаваць. Бо бачыце, ёсць, нажаль у нашай вёсцы людзі, якія яшчэ не могуць памірыцца з гістарычнай праўдай, што былыя іх батракі не мусяць маліць у іх аб кусочак хлеба. Дабрабыт учарашніх беднякоў, як пясок, коле ім вочы. Не раз удаецца ім атуманіць сваім плюгавым шопатам і тых, якія сумленна і шчыра працуюць на свой хлеб. Не так даўно выступалі яны яшчэ адкрыта. Зараз няма ўмоў да адкрытай барацьбы, то бачыце, што робяць.

Яшчэ перад гэтым выпадкам той жа Віктар атрымаў пазыў да войска. Тады гаварылі яму: «Ты ідзеш да войска, зараз табе можна рабіць усё, што толькі захочаш. Можаш красці, падпаліць, а нават забіць — табе ніхто нічога не зробіць». Мо' гэтыя неразумныя людзі хацелі пасмяяцца з дурнога, а мо' гаварылі яму гэта зусім сур'ёзна, каб выкарыстаць вар'ята для сваіх мэт. Так ці інакш — на адно выходзіць, бо дурны Віктар ім паверыў.

— Ну, добра, але што на гэтае ўлады, міліцыя? — пытаю.

— Найбліжэйшы пастарунак міліцыі аддалены ад нас на 8 км і міліцыянты прыязджаюць да нашай вёскі вельмі рэдка, найчасцей толькі тады, калі хто - небудзь вызаве іх. А як-жа, я замельдаваў міліцыі. Прыехалі, спісалі пратакол, забралі яго і адставілі да Сямяціч. Там, мабыць, лекар прызнаў, што ён псіхічна хворы і пракурор адпусціў дадому. Гэтае толькі яго ўпэўніла, што яму ўсё можна. Ён зараз сам заяўляе. «Я магу кожнага забіць, мяне судзіць не будуць».

— Гэта ж паважная справа. Чаму яго не забяруць дзесьці на лячэнне?

— Так, я з вамі згаджаюся, — адказвае пракурор, — што справу Віктара Курыла трэба разглядзець вельмі сур'ёзна. Ён надта небяспечны для цэлай вёскі. Але вось тут у актах, ёсць асведчанне лекара, у якім выразна сказана, што Віктар Курыла, як хворы псіхічна, у час нападу на дом Максіма Рудчыка не мог уяўляць сабе злачынства свайго паступка, а ў такім выпадку, на аснове нашага права, мы не маем ніякіх магчымасцей, каб яго зняволіць.

— Ну, добра, калі не можна паставіць яго перад судом, трэба тады абавязкова адправіць яго дзесьці да пенсіяната для псіхічна хворых — гавару пракурору.

— А гэтае мы можам заўсёды зрабіць і думаем аб гэтым — сцвердзіў пракурор.

Прайшло паўтара месяца. Мне ізноў прышлося пабываць у Вульцы Нурэцкай. Аказваецца, што дурны Віктар (як называюць яго ў вёсцы) надалей там знаходзіцца. Праўда, якісьці следчыя прыязджалі два разы з Сямяціч, але мабыць толькі, каб дапоўніць чыстай фармальнасці. Ці ж бы звар'яванага чалавека бралі яны толькі за нармальнага злачынца, а не бачылі ў ім сляпой прылады ў руках класавых ворагаў?

Спраза тады астаецца адкрытай. Дурнога Віктара за паўлітра гарэлкі можна купіць да ўсякага злачынства. Калі хто захоча, ён можа яму забіць чалавека і на дадатак сказаць: «Так, я забіў, бо права за мною, мяне судзіць не будуць». Страшная праўда! Ці ж бы органы пакліканы да аховы грамадскага спакою яшчэ на гэта чакалі?

Думаю, што адказ на гэтае пытанне павінна даць пракуратура ў Сямяцічах.

**ЯКІМ КОРШУН**

## Агенцтва гумару і сатыры паведамляе

«Патрэбныя чараўніцы да дзвярэй, акон і печаў у новапабудаванай школе у Зубрах (Беластоцкі павет)...»

— Зараз, зараз, каб дзяцей пужалі ў школе?

— Не, да ачаравання працаўнікоў Ваяводскага будаўлянага тэрэновага прадпрыемства ў Беластоку, каб апошнія паклапаціліся аб правядзенні рамонту ў пабудаванай сабою школе, якая была здадзена ў карыстанне ў маі мінулага года.

І сапраўды, дзверы не зачыняюцца, з печаў дым замест на двор, дык прэцца ў залы, а звонку, на падаконніках, ржавеюць бляхі.

Здзіўленне ахоплівае чалавека, калі паглядзіш, што новая вялікая цагляная школа, а ў ёй толькі 4 урокавых залы. Больш? Больш нічога, ні гардэробнай, ні ўмывальні, ні залы на палітэхнічныя заняткі. Апошняе ж надта важнае, калі падыходзіць да палітэхнічнага навучання па-сучаснаму. Відавочна, забылі аб гэтым людзі, якія зацвярджалі план пабудовы школы. Але раім ім не забываць аб гэтым у будучыні

**М. К.**

## У варожкі

— Хутка ты атрымаеш вялікія грошы, — кажа варожка свайму кліенту.

— Вельмі добра, адказаў той, — тады пазыч мне дзесяць тысяч злотых.

**Янка Ясвіловіч**
Пасынкі

## Перайначыў

— Хачу табе прызнацца, што я была вельмі дурная, калі выходзіла за цябе замуж.

— Што ты кажаш? А цяпер то ўжо хіба не дурная?

— Ну, цяпер то ўжо не.

— Дык, бачыш, мая міленькая, ты павінна быць мне ўдзячная за тое, што я цябе так перайначыў...

**Мікалай Лапінскі**
Тынкоўшчызна






## Шкада, што я не міліцыянер

Кінуў бы тады хадзіць да нашай бабулі, Параскі, каб угадала, якія мне цыфры перакрэсліць і пры дапамозе міленькага «тоталётка» мільёнчык кругленькі згарнуць да кішэні. Узяў бы лепш камандзіроўку, ды грубенькі блакнот штрафных білецікаў і паехаў бы ў Гайнаўскі павет да вёскі Гайдукоўшчына.

— Чаго? — запытаеце. — Ну, скажу вам, паслухайце.

Каб даехаць да Гайдукоўшчыны, трэба некалькі кіламетраў за Нараўкай з'ехаць з шашы Беласток — Гайнаўка на палявую дарогу і гэтай дарогай ехаць яшчэ каля трох кіламетраў.

І вось ужо бачым першыя хаты невялікай вёскі. Сэрца вясёла б'ецца: мы ў мэты! Яшчэ толькі пераехаць ручаёк. Небяспекі няма. Мост моцны, мільён чарцей што ноч можа на ім танцаваць і не разваліцца. Ну, дык што ж? На газ і далей! А вось жа — не! Каля масціка стаіць, быццам зачараваны, знак: круглая, белая дошка з чырвонай абвалочкай. Гэты знак на цэлым свеце абазначае адно: там, дзе ён стаіць, нельга далей ехаць ні возам, ні матацыклам, ні веласіпедам, ні самаходам, ні трактарам, ні іншымі сродкамі руху. На дабаўку гэткі знак стаіць з двух бакоў масціка. Значыць, ніхто не можа даехаць да вёскі, а таксама з ёй выехаць. Цікава толькі як Гайдукаўшчане ўладжваюцца са сваімі грузамі. Ці яны фуры з сенам, збожжам, або іншай бульбай на плячах пераносяць ад масціка да сваіх панадворкаў і з панадворка да масціка?

Штосьці мне здаецца, што яны гэтак не робяць, хоць знак як вол стаіць па абодвух баках масціка і прыказвае: праязджаць нельга, можна толькі прайсці пешкі!

Вось тут і прыдаўся б мне міліцэйскі мундзір. Прысеў бы я за кусцікам каля масціка і пільнаваў бы. Едзе хто веласіпедам і не павярнуўся назад ад масціка — значыць зламаў закон. Я яму тут жа штрафны білецік за дзесяць залатовак! Праехаў фурай — за 20 зл., матацыклам — 50 зл., «Варшавай» — значыць прынамсі павятовая фігура, такі можа заплаціць і 100 залатовак, каб усё жыццё памятаў і не даваў прыкладу. Замыкаў бы толькі вочы, калі б праязджаў трактар, бо я чалавек прагрэсіўны і ведаю, што сельгасмеханізацыю падтрымліваць трэба. Бачыце, як проста можна было б сабраць некалькі тысяч залатовачак за адзін дзень! Ды яшчэ астаўся б прыкладным старажам дзяржаўных парадкаў. Мо' узнагароду далі б, аванс, а то і медаль якую. І дзе ж тут «тоталётку» спаборнічаць з чымсьці такім!

Нажаль, я не міліцыянер. Астаецца тады мне толькі запрапанаваць загадчыку Аддзела камунікацыі Павятовай рады ў Гайнаўцы, каб гэткі знак паставіў перад дзвярыма свайго аддзела, а пад знакам прыбіў таблічку з надпісам: «Датычыць таго, хто паставіў гэткі знак на дарозе да Гайдукоўшчыны». На што скромна чакаю —

*Якуб Асана*

## Самадбслугоўванне

### Адказаў

— Міколка, калі памёр Калумб? — пытае вучня настаўнік.

Міколка падняўся, узрушыў плячыма і ветліва адказаў:

— Выбачайце, але я не чуў, каб ён быў хворы.

**Аляксей Шаховіч**
Сакі

### Праўда

Жабрак прыйшоў да багатага і пачаў прасіць хлеба. У той час багаты еў пірог і кажа:

— Ідзі, дурны. Я сам хлеба не маю. Бачыш, пірагі ем.

Жабрак нічога не адказаўшы, павярнуўся і пайшоў.

**Пеця Іванюк**
Плёскі

### Трэці спосаб

Пытае бацька малога сына:

— Што ты хочаш мець, брацікa ці сястрычку?

— Калі гэта вам, тата, не робіць розніцы, то можа быць конь на качэлях — адказаў сын.

**Леанід Ляснік**
Рыбалы

### Не веру

— Васька, скажы праўду, у духі верыш?

— Не, але баюся.

**Мікола Іванюк**
Бельск

— За...ся. Нехта ідзе.

мал. Збігнеў Кюлін

## МЕТАМАРФОЗА

Пачуў я гэтую гісторыю ад знаёмага. Прыехаў ён з вёскі ў горад і сустрэўся з нейкай сваёй сімпатыяй. Дамовіліся на спатканне вечарам.

Вечарам знаёмы прыапрануўся — засунуўся ў модныя туфлі з вузенькімі насамі, нацягнуў рукавічкі і ідзе, куды трэба.

Дакладна — не йдзе, а кульгае. Туфлі цiснуць — каханне заглушаюць. Дрэнна адчувае ён сябе ў гэтых туфлях.

Прышлося таксі ўзяць. Забраў дзяўчыну і паехаў у летні кінатэатр свежым паветрам падыхаць і Фернандэля паглядзець.

Сімпатыя з Фернандэля смяецца, да спутніка прыціскаецца. Адна паэзія і толькі.

Пад канец сеанса дожджык пачаў капаць. Сімпатыя гаворыць:

— Думаю дамоў ісці, не хачу на дажджы мокнуць. (Але ж як тут ісці. Грошы за білеты заплачаны і Фернандэля да канца не паглядзець).

А знаёмы:

— Ідучы дамоў, таксама прамокнем.

— Я вам даверылася, а вы мяне на дождж выстаўляеце? Ад вільгаці я чхаць пачну, — заявіла дзяўчына.

Не выпадала дамоў адстаўляць сімпатыю. Вячэрняя серанада яшчэ не пачалася. Схапіў знаёмы дзяўчыну пад руку і цягне пад дах у кандзіцерскую. Заходзяць, а там вешалка. Аплата — адзін злоты. Знаёмы хацеў пінжак зняць, але швейцар дазволіў з пінжаком не расставацца, затое запатрабаваў капялюш скінуць. Знаёмы пасароміўся залатоўку плаціць, каб дзяўчына скупым не палічыла, і заплаціў 5 злотых, ды так, каб яна бачыла.

Швейцар усміхнуўся хітра, нібы хацеў сказаць: «Пёс з табой, любі далей, хаця б у кандзіцерскай».

Села парачка за столікам. Змалацілі па порцыі марожанага з ізюмам. Кожная ізюмінка, нібы вока сімпатыі — прыемная, салодкая і прынадная. Пасля па бакалу ліманаду папрасілі.

Цягнуць ліманад праз саломінку і адчуваюць сябе як у Монтэ - Карла.

Каханне расце, як на дражджах. Пасля папрасілі па кубачку кавы.

Знаёмы глыток адпіў і ўспомніў, што грошай засталося з гулькім нос. Пайшоў да афіцыянткі і пытае колькі плаціць. Падае грошы і гаворыць:

— Не хапае трох залатовак. Можаце маю каву забраць — амаль не кранутая.

Афіцыянтка не згаджаецца.

— Пійце каву, гаворыць, а мне рахунак заплаціце

Знаёмы ў залог гадзіннік пакінуў, да століка падыйшоў і дзяўчыну пад руку да выхаду цягне. А сімпатыі ісці не хочацца: у кандзіцерскай ёй спадабалася.

Як там не было, а ўсё ж-такі дзяўчыну адвёў дамоў, а сам вяртаўся з туфлямі ў руках.

Чытачы могуць пацікавіцца, навошта я аб гэтым расказваю.

Грамадзяне! Няма нічога горшага, як рабіць з сябе не тое, чым ты сапраўды з'яўляешся.

*Дзядзька Лявон*



«The New Yorker»